

# ВЫБАР

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА-ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 18 (46) 9—15 чэрвеня 1993 г. Цана 3 рублі

## ДАПАМОГА АХОПІЦЬ І ВІЦЕБСК

У Беларусь пачалася дастаўка чарговай—на гэты раз у 12,5 тыс. тон—партыі гуманітарнай дапамогі ў рамках аперацыі «Надзея экспрэс», якую ажыццяўляе амерыканская дабрачынная арганізацыя «Сіці Хоуп Інтэрнэшнл».

Першыя гуманітарныя грузы коштам 4,5 млн. долараў паступілі ў рэспубліку яшчэ мінулагоднім летам. Сёлетняя ж дапамога, якая складаецца ў прыватнасці з рыса, мукі, сухога малака, ацэньваецца ўжо ў 25 мільёнаў.

Трэцяя частка гуманітарных грузаў будзе размеркавана бясплатна ў дзіцячых дамах, бальніцах, дамах састарэлых. Астатнія харчовыя прадукты стануць прадавацца праз сетку дзяржаўных крамаў і спажывецкай кааперацыі. Пакупнікі будуць плаціць за амерыканскія тавары столькі ж, як і за адпаведныя беларускія.

Па папярэдніх дадзеных у магазіны Віцебска трапяць 10 найменаванняў сельгаспрадукцыі ЗША.

Грошы, атрыманыя ад гандлю, зноў будуць выкарыстаны на дапамогу нашай краіне.

Кантралююць распаўсюджанне амерыканскай гумдапамогі некалькі дзесяткаў добраахвотнікаў з ЗША і супрацоўнікі самой «Сіці Хоуп». Расходы валанцёраў гэтай дабрачыннай арганізацыі на паездку ў РБ складаюць да пятнаццаці тысячаў долараў.

Такім чынам, не толькі амерыканская дзяржава як абстракцыя, але й ейныя грамадзяне зацікаўленыя ў матэрыяльнай дапамозе народу Беларусі.

Аднак апроч яе, «Сіці Хоуп Інтэрнэшнл» збіраецца ажыццяўляць і пэўную Інтэлектуальную помач. Хутка менскае прадстаўніцтва арганізацыі мяркуе правесці семінар для бізнесовых колаў. Інфармацыю пра яго можна атрымаць па сталічным тэлефоне 27-25-55.

Ю. С.

## НА 8-МІ СТАРОНКАХ:



*У мясцовых філіях*

## У гасцях—добраахвотнік

На мінулым сумесным паседжанні гарадскога клуба выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары» і Віцебскай Рады БНФ абмеркаваны агульныя вынікі нядаўняга з'езду Фронту.

Аднак большая частка часу й увагі прысутных была прысвечана сустрэчы з добраахвотнікам «Сіці Хоуп Інтэрнэшнл», беларусам па паходжанні Бр. Станкевічам, сынам вядомага дзеяча нашай эміграцыі.

Ён распавёў пра ўласнае жыццё ў ЗША, падзяліўся ўражаннямі ад перабывання—дарэчы, першага—на беларускай зямлі. Зала засыпала госця самымі рознымі пытаннямі, на якія сп. Станкевіч грунтоўна і цікава адказаў на добрай беларускай мове.

М. КАЛІНОЎСКІ.

P.S. Між іншым, тыя пытанні, што гучалі па-руску, нашаму суродзічу былі незразумелыя. Бо «вялікай дый магучай» ён не ведае—не жыў у бээсэсэры.



НА ЗДЫМКУ А. Лакатко: Бр. Станкевіч (злева) і ініцыятар сустрэчы выканаўчы дырэктар мясцовай філіі ЗБС «Бацькаўшчына» М. Паўлаў.

## III з'езд—трэці праграмны дакумент

У будынку тэатра імя Я. Купалы, дзе 75 гадоў таму І Усебеларускі кангрэс абвясціў стварэнне БНР, напрыканцы мінулага месяца прайшоў трэці з'езд Беларускага народнага фронту «Адраджэньне».

566 дэлегатаў, у тым ліку і 41 з Віцебшчыны, прысутнічалі на фронтаўскім форуме. Яны заслухалі справаздачны даклад старшыні народнага фронту З. Пазьняка, абмеркавалі і прынялі новую праграму.

З'езд стаў адначасова й устаноўчым для партыі БНФ (ПБНФ). Прычына, думаю, многім ужо вядомая: жаданне бээнэфаўцаў стварыць юрыдычны «парасон» на выпадак выдання парламентам забароны ўдзелу ў выбарах масавым рухам.

Дэлегаты прынялі шэраг ухвалаў, у прыватнасці, «Пра становішча на Беларусі», «Пра ўсенародны рэферэндум», «Пра канстытуцыю Беларусі».

Наш кар.

## Дзе будзе суд?

Напачатку мінулага года трагічна загінуў 18-цігадовы студэнт Віцебскага медінстытута А. Баранаў. Цяпер закончана следства, якое вяла пракуратура РБ. Прынятае рашэнне накіраваць справу для разгляду ў Аршанскі гарадскі суд. Як вядома, па справе ў якасці падсудных праходзяць два былыя міліцыянты Віцебскай асобай роты міліцыі спецыяльнага прызначэння.

536 студэнтаў і супрацоўнікаў медінстытута звярнуліся да старшыні Вярхоўнага Суда Беларусі У. Каравая з патрабаваннем правесці судовы працэс у абласным цэнтры, дзе было ўчынена злачынства і дзе праўдзівей большасць сведак па справе.

Судовая ўлада гэты зварот праігнаравала.

А.Б.

## Дзівосы дый толькі

Віцебскага гарадская ўлада ў асобе народных выбраннікаў працягвае здзіўляць сваіх выбаршчыкаў. «Драматычныя» падзеі разгарнуліся ў «белым доме» падчас апошняй сесіі, калі вырашаўся лёс начальніка ўпраўлення па ўліку і размеркаванню жылля В. Сазона.

Напярэдадні гарвыканкам і прэзідыум гарсавета прынялі адстаўку В. Сазона. Гэтае пытанне разглядалася на паседжанні дэпутацкіх камісіяў.

Ініцыятарам адстаўкі стаў старшыня гарвыканкама В. Неўшаў, па прапанове якога Віктар Фёдаравіч напісаў заяву аб звальненні па ўласнаму жаданню. Атрымлівалася, як у тым анекдоце—«прашу мяне звольніць, а калі можна—пакінуць».

У час абмеркавання гэтакага пытання пачуцці разгарэліся да максімума. У кампаніі абароны апальнага чыноўніка актыўны ўдзел прыняў намеснік старшыні абвыканкама, колішні мэр М. Федарук, каторы адклаў сесійныя справы ў Менску ды прыбыў у Віцебск.

Палымяная прамова Мікалая Аляксеевіча, ягоныя рэплікі з мейсца, туманныя намёкі на нейкія палітычныя інтрыгі маглі падацца чалавеку з боку, што ў гэтай зале вырашаецца лёс савецкае ўлады. Дарэчы, 75 гадоў таму назад аб'яўленай менавіта ў гэтым будынку. Ці не іронія лёсу?

Увогуле складваецца уражанне, што Мікалай Аляксеевіч працягвае (так сказаць, неафіцыйна) кіраваць гарадскім Саветам. Прырос сэрцам і душою да горада й аніяк не можа прызвычаіцца да сваёй новай пасады.

У той момант, калі гадзіннік на ратушы адлічваў апошнія хвіліны кіраўнічай дзейнасці Сазона, хтосьці з дэпутатаў прапанаваў простае выйсце з патавай сітуацыі, што склалася: калі не вінаваты, то няхай забярэ заяву, а калі віна ёсць, то просьбу трэба задаволіць.

Віктар Фёдаравіч Сазон, якога падбадзёрвалі дэпутаты, не спяшаючыся падняўся, падышоў да стала прэзідыума ды забраў сваю заяву.

І што гэтае азначае?

Б. БАРЫСАЎ.



## Камісія працуе

Як пісалася ў № 14 «Выбара», створана грамадская камісія па кантролю за раскрадальніцкай дзейнасцю апарата. Яна пачала работу. Паступае інфармацыя ад грамадзян пра канкрэтныя выпадкі злоўжывання ўладай чыноўнікамі, «прыхватызацыі» дзяржмаёмасці. Камісія фіксуе і правярае ўсе паведамленні.

Тэлефоны грамадскай камісіі: 37-28-44, 37-35-06.

## Чытачка дзякуе

Рэдакцыя атрымала ліст ад менчанкі Марыі Ярашэвіч. Яна дзякуе за артыкул «Помнік будзе?» з № 12 (40) нашай газеты, у якім было расказана аб праблемах ушанавання памяці нашай зямлячкі, беларускай паэткі Еўдакіі Лось, роднай сястры Марыі Якаўлеўны.

Зянон ПАЗЬНЯК

# Беларускі Народны Фронт і разьвіцьцё палітычных працэсаў на Беларусі

Глыбокапаважаныя спадарыні і спадары, дэлегаты і госьці Зьезда!

Мінула два гады пасьля II-га зьезду Народнага Фронту, дзе гаварылася пра непазьбежны крах камунізму, пра распад камуністычнай імперыі СССР, пра незалежнасьць Беларусі. Тады ўлады яшчэ патрабавалі ад нас зьняць наш сьцяг, пагражалі судом. Тады некаторыя дэлегаты «ў інтарэсах Фронту» крытыкавалі БНФ, што занадта адкрыта ён выступае за суверэнітэт, што трэба гэта рабіць паціхеньку, што БНФ пакрыўдзіў «чэсных камуністаў» і злачынцу № 1, арганізаваўшы магутную антыкамуністычную дэманстрацыю 7 лістапада 1990 г. у Менску—цяпер, дарэчы, гэта адна зь яркіх гістарычных старонак нашай барацьбы. Гаварылася, што мы адарваліся ад мас, забеглі далёка наперад, што лакаматыў БНФ пераганяе састаў, што народ не гатовы ўспрымаць ідэі БНФ і г. д. Гэта было нядаўна—гэта было даўно. Так, спадарове, мы тады адарваліся, мы перагналі самі сябе... А што б было, калі б мы не перагналі?

Не будзем гадаць, што б было. Было б дрэнна. Скажу вельмі агульна: тады б Фронт не быў Фронтам. На мой погляд, у той падсавецкай і гэтай посткамуністычнай Беларусі, дзе пануе каланіяльная псіхалогія і народ ашуканы, палітычны рух, які не ідзе наперадзе да чалавечай годнасьці і народнай свабоды,—такі рух увогуле непатрэбны. Сумесна існаваць у рабстве—гэта не значыць быць разам з народам. Такое існаваньне брыдкае, невартае чалавека, ідучь за тым, хто сам ідзе.

Мы не наракаем на апатычнасьць ці нацыянальна-культурную індыферэнтнасьць грамадства, бо паставілі задачу дапамагаць нашаму народу ў яго адраджэньні і разьвіцьці.

Мы разумеем, што дзесяцігодзьдзі калгаснага ладу і савецкай рэчаіснасьці не праходзяць бясьсьледна. Нашае грамадзтва хворае. Яно, як той гарбаты, сагнуты ў крук чалавек, якога лечаць цудадзейнымі сродкамі, спрабуюць разагнуць. А ён супраціўляецца, ён прывык быць сагнутым, калі разгінаюць, яму баліць, ён праклінае такое лячэньне. Але ж іншага спосабу адраджэньня, як выпрастацца і стаць здаровым, няма.

Хворы ж паважае тых, хто шые адзежку яму па гарбе, ненармальнае лічаць нармальным, нявольніцтва—згодай. Гэта вечная калізія беларускага адраджэньня, адлюстраваная ў несьмяротным купалаўскім «Сьне на кургане», у «Пакрыўджаных» Леапольда Родзевіча, у нашай гісторыі.

Палітыка адраджэньня—гэта асобая палітыка, асобая псіхалогія і асаблівая дзейнасьць. Народны Фронт павінен усьведамляць сваю адметнасьць. Палітыка нацыянальнага адраджэньня ўсюды і заўсёды арыентуецца на ідэал, на змаганьне за агульнае паляпшэньне. Прытым адраджэнскі ідэал заўсёды рэальны, бо гэта рэчаіснасьць, якая была. Гэта рэчаіснасьць, якая ёсьць у іншых. Гэтая нармальная рэчаіснасьць будучыні нарэшце, рана ці позна, прыходзіць.

Адсюль другая асаблівасьць адраджэнскага руху—ён валодае ўніверсальнасьцю, тэндэнцыяй абняць усё, усе сьферы нацыянальнага жыцьця, бо нельга разьвівацца часткова; нармальнае разьвіцьцё заўсёды агульнае і гарманічнае. На гэтых падставах стварыўся і дзейнічае Беларускі Народны Фронт.

Наш рух мае каштоўнасную культурную арыентацыю і выяўляе псіхалогію беларускага народа. Невыпадкова ў аснову нашай палітыкі змаганьня пры арыентацыі на рэальны ідэал пакладзена маральнасьць і развагі здаровага сэнсу. Невыпадкова, што ў наш Статут была ўключана формула ненасільля пры насільлі ўладаў. Упершыню гэтая формула вытрымала выпрабаваньне 30 кастрычніка 1988 года. Людзі стыхійна ў той сітуацыі прыйшлі да яе ўсьведамленьня і атрымалі вялікую маральную перамогу над камуністычнай сілай.

Можна сказаць, што наш рух вырастаў з глыбінных карэньняў народнага сьветапогляду на палітыку, чалавека і сьвет. Невыпадковая і блізкасьць нашых сьветапоглядных арыентацыяў і палітычных каштоўнасьцяў да магістральных накірункаў эўрапейскай палітыкі, выяўленай у дзейнасьці народных, хрысьціянска-дэмакратычных, кансерватыўных і іншых партыяў цэнтру, з'арыентаваных на дасягненьне гармоніі і паміж асобай і грамадзтвам у вольнай нацыянальнай дзяржаве. Натуральны і наш палітычны тэзіс—вяртаньне ў Эўропу айчынаў. Але, каб вярнуцца да самых сябе, неабходна адрадзіць свабоду і культурныя арыентыры нацыі.

У барацьбе з камунізмам трэба было ўсьвядоміць дзьве абавязковыя ўмовы: першая—гэта тое, што народнаму руху нідзе, ні ў чым і ні па якіх меркаваньнях нельга супрацоўнічаць з камуністамі, як нельга супрацоўнічаць з бандытамі і з усялякім злом. І другое—гэта аб неабходнасьці супрацоўніцтва з людзьмі, якія апынуліся ў КПСС, каб разам змагацца за свабоду, дэмакратыю і незалежнасьць, а ў канечным выпадку—супраць камунізму. Гэтую простую лагічную задачу, якая вынікае з вопыту і здаровага сэнсу, некаторым цяжка было зразумець. Тым не менш Народны Фронт добра справіўся з пастаўленай задачай. Шмат разумных інтэлектуальных людзей выйшлі з КПСС і далучыліся да Народнага Фронту.

За два гады, што мінулі пасьля II-га зьезду БНФ, адбылося шмат пераменаў і падзей. У красавіку 1991 г. у Менску і па ўсёй Беларусі пракаціліся стыхійныя рабочыя страйкі супраць палітыкі Масквы і ўраду БССР. Беларускі Народны Фронт, суполкі, што былі на прадпрыемствах, паспрыялі арганізаванасьці стыхійнага рабочага руху, стымулявалі і паклалі пачатак новым рабочым структурам—спачатку страйкамам, а потым вольным прафсаюзам, якія хоць і павольна, але грунтоўна разьвіваюцца ў Менску, Салігорску (прафсаюз гарнякоў), Маладзечна, Вілейцы і іншых гарадах.

У маі гэтага ж года КПСС на Беларусі актыўна рыхтавалася да путчу з мэтай задушыць дэмакратычныя працэсы ў Беларусі. На сесію Вярхоўнага Савета вынесьлі пытаньні аб пасадзе прэзідэнта, аб выбарах прэзідэнта і аб надзвычайным становішчы. Задума зразумелая—выбраць на сесіі свайго прэзідэнта, даць яму шырокія паўнамоцтвы, той уводзіць надзвычайнае становішча і ўсе разам «законна» распраўляюцца з дэмакратычным рухам.

Дэпутацкая Апазіцыя Народнага Фронту разгадала планы камуністаў і пры падтрымцы іншых ненаменклатурных дэпутатаў правaліла іхнія задумы.

Выпрабаваньнем для Народнага Фронту і асабліва для яго Апазіцыі ў Вярхоўным Савеце стаў перыяд з 19 па 25 жніўня 1991 г. БНФ зрабіў неабходныя грамадзка-палітычныя захады па супраціўленьні путчу. 24 жніўня пачалася, скліканая па ініцыятыве Апазіцыі, нечарговая сесія Вярхоўнага Савета. Практычна ўсе праекты дакументаў гэтай сесіі былі падрыхтаваныя Апазіцыяй на працягу аднаго дня. З 25 жніўня 1991 года пачала спраўджвацца важнейшая ўмова нашага адраджэньня—дзяржаўная незалежнасьць Беларусі. Цяпер, азіраючыся назад і аналізуючы, можна з упэўненасьцю сказаць, што, калі б не Народны Фронт, калі б не яго дэпутацкая Апазіцыя ў Вярхоўным Савеце, калі б не дакладныя і рашучыя палітычныя дзеяньні, Беларусь не скарыстала б тады свой гістарычны шанс незалежнасьці і зьнішчэньня таталітарызму. Яна б так і засталася камуністычнай вандэяй, нечым накшталт цяперашняга Узьбекістана.

Неўзабаве пры неверагодных высілках Апазіцыі была адмененая назва БССР, прынятыя ў якасьці дзяржаўных нашы адвечныя нацыянальныя сімвалы.

Восень і канец 1991 года—час цяжкай і безвыніковай барацьбы Народнага Фронту за рынкавыя рэформы ў эканоміцы, за ўвядзеньне нацыянальнай валюты, стварэньне неабходных інстытутаў дзяржавы. У гэты час Фронтам распрацаваная новая канцэпцыя эканамічнага разьвіцьця Беларусі, праекты законаў аб выбарах і аб зямлі. Аднак камуністычная наменклатура, апамятаўшыся, наглуха тармазіла ўсе дэмакратычныя і рынкавыя пачынаньні. Ужо ў канцы 1991 года стала зразумела, што на Беларусі кансервуецца адміністрацыйная сістэма і ствараецца карумпаваны пласт раскрадальнікаў дзяржаўнай маёмасьці з ліку наменклатурнай бюракратыі, зьвязанай з камерцыяй. Камуністычная бальшыня Вярхоўнага Савета адстойвала інтарэсы менавіта гэтай сацыяльнай групы людзей. Спадзяваньні на рынкавыя рэформы, на будаўніцтва дзяржавы ў такіх варунках марныя. У той жа час у савецкай сістэме ўлады адсутнічаюць інстытуты і рычагі яе кантролю зьнізу, няма структураў, закліканых ажыцьцяўляць пры неабходнасьці яе зьмену, поўнасьцю адсутнічаюць такія палажэньні ў Канстытуцыі і законах. Немагчыма распусьціць Вярхоўны Савет, немагчыма адклікаць дэпутата, немагчыма правесьці нечарговыя выбары. Адзіным законам (прынятым, дарэчы, па ініцыятыве і пад націскам Апазіцыі), які даваў такую магчымасьць, стаў закон пра рэферэндум.

19 сьнежня 1991 года Апазіцыя БНФ выступіла з заявай аб зборы подпісаў за рэферэндум пра роспуск Вярхоўнага Савета і нечарговыя выбары.

Неўзабаве быў створаны блок дэмакратычных партыяў, арганізацыяў і рухаў «Рэферэндум», арганізаваная Ініцыятыўная група рэферэндуму. Па ўсёй Беларусі сабрана больш чым 442 тысячы подпісаў за правядзеньне рэферэндуму. 12 мая Заключэньнем Цэнтральнай камісіі па рэферэндуму было прынята рашэньне аб яго правядзеньні. Вярхоўнаму Савету заставалася па Закону толькі прызначыць дату рэферэндуму.

Павінен з задавальненьнем адзначыць, што вывераная палітыка і тактыка БНФ і Ініцыятыўнай групы на першым этапе падрыхтоўкі рэферэндуму былі бездакорнымі. Ні Міністэрства юстыцыі, ні Цэнтральная камісія па рэферэндуму, ні Прэзідыум Вярхоўнага Савета і яго камісіі, ні Саўмін, ні ўся бюракратычная сістэма, накіраваная супраць рэферэндуму і БНФ, як ні стараліся, але не змаглі перашкодзіць нашай працы, якая дакладна ў тэрмін была даведзеная да канца і прадстаўленая ў Вярхоўны Савет. Як павёў сябе ў гэтай сітуацыі загнаны ў кут Вярхоўны Савет, вы ведаеце.

Трэба сказаць, што на працягу ўсяго 1992 года назіраўся спад грамадзка-палітычнай актыўнасьці насельніцтва, разьвівалася апатыя і расчараваньне ад безвыніковасьці грамадзкіх высілкаў. Адначасна ўмацоўваліся адміністрацыйна-наменклатурныя структуры, асабліва манаполія і кантроль над сродкамі масавай інфармацыі. У такіх умовах грамадзка-палітычныя рухі тыпу народных франтоў нашага часу эфектыўна дзейнічаць не могуць, сьфера іх актыўнасьці звужаецца, пагражае зусім зьнікнуць. Сойм БНФ прыклаў намаганьні, каб запабегчы некарысным працэсам у новых абставінах. Перш за ўсё, была пастаўлена задача арганізацыйнага ўмацаваньня структураў БНФ і замацаваньня пастаяннага ядра Фронту, пашырана рэгістрацыя сяброў праз уліковыя карткі, выдаюцца білеты, Камісіям нададзеныя правы, аналагічныя як у Радаў і супалак з магчымасьцю прыёму ў сябры БНФ. Зьвернута ўвага на асабістыя кантакты паміж сябрамі і прыхільнікамі БНФ. Гэты адзін з працаёмкіх метадаў прарыву інфармацыйнай блакады Фронта апраўдвае сябе. Са жніўня 1991 года зроблена больш 60-ці выездаў у раённыя і абласныя гарады. Адбыліся сустрэчы з насельніцтвам. Праведзеныя шэраг тэматычных і міжнародных канферэнцыяў.

Значна палепшылася дзейнасьць арганізацыяў БНФ у Магілёве, а таксама па Берасьцейскай вобласьці.

Аналіз і ацэнку палітычнай сітуацыі і прапановы на Сойм падрыхтоўвала Палітычная камісія Сойма, якая дзейнічае як кансультатыўны орган (гэта значыць не прымае сваіх рашэньняў). У Камісію ўваходзяць Старшыня БНФ, яго намесьнікі, сакратары Управы, кіраўнікі Камісіяў Фронту. Пры выпрацоўцы рэкамендацыяў некалькі разоў рабіліся сацыялагічныя дасьледаваньні. Яны былі неабходныя, асабліва ўлічваючы, што пад відам сацыялагічных дасьледаваньняў у манапольным друку пастаянна зьмяшчаюцца розныя прапагандысцкія фальшыўкі. Тыповым узорам такой фантастычнай фальсіфікацыі зьяўляецца, напрыклад, публікацыя «сацыялагічных дасьледаваньняў», праведзеных інстытутам сацыялогіі Акадэміі Навук і зьмешчаных у газеце «Рэспубліка» 19 траўня пад загалоўкам «Фронт откатывается вниз». Там напісана, што за БНФ 5,8 прац. насельніцтва, а самай папулярнай партыяй у Менску зьяўляецца партыя «зялёных».

Павінен заўважыць, што мы пастаянна ведаем сапраўдную сацыялагічную сітуацыю ў Беларусі. Яна ў дачыненьні да БНФ на працягу апошніх двух гадоў практычна не мяняецца. За БНФ 32—35 працэнтаў у Менску і 20—22 працэнты на правінцыі. Прытым у гарадах працэнт вышэй сярэдняга, а ў вёсцы—ніжэй. Гэта гаворыць пра тое, што адносна БНФ у існуючай сістэме дзяржаўнай дэзінфармацыі людзі даўно вызначыліся і адмоўная прапаганда на іх не ўплывае. Калі б былі нармальныя зьвесткі пра Фронт у сродках масавай інфармацыі рэйтынг яго мог бы павялічыцца, асабліва на правінцыі, у 1,5—2 разы.

У будучым, калі нашы матэрыяльныя справы палепшацца (будзем спадзявацца), неабходна стварыць хаця б элементарны інфармацыйны цэнтр БНФ, каб мець пастаянную сувязь напачатку з буйнымі гарадамі Беларусі і сталіцамі нашых суседзяў.

З канца 1992 года мы аднавілі выданьне «Навінаў БНФ». Па характару гэта выданьне тыпу бюлетэня, разьлічанае, перш за ўсё, на сяброў Фронту і яго прыхільнікаў. Цікава адзначыць, што хоць газета па тэматыцы стала больш вузкай і акрэсьленай, я б сказаў, больш партыйнай і менш чытабельнай для ўсіх, попыт на яе ў Менску вялікі. Рэалізуецца адразу.

З газетаў дэмакратычнага франтаўскага накірунку хацеў бы адзначыць магілёўскую «Ратушу», віцебскі «Выбар» і гарадзенскую «Пагоню». У Берасьці рыхтуецца газета «Шлях».

Адлучанасьць ад дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі (асабліва ад радыё і тэлебачаньня) і няспынная дэзінфармацыя вельмі некарысна паўплывала на эфектыўнасьць усіх дзеяньняў і акцыяў БНФ. Трэба прызнаць, што зацяжка амаль на год з выданьнем «Навінаў БНФ» таксама шкодна адбілася на ўнутранай інфармаванасьці Фронту. Безумоўна, што інфармацыя павінна стаць адным з важных прыярытэтаў нашай пастаяннай дзейнасьці.

Сябрамі і дэпутатамі Народнага Фронту неаднаразова рабіліся ў друку аналіз і ацэнкі працэсаў у палітыцы і эканоміцы Беларусі за апошнія няпоўныя два гады. Жыцьцё пацьвярджае правільнасьць гэтых характарыстык. Таму я падсумую і спынюся толькі на галоўных сутнасных вызначэньнях, паводле якіх можна прагназаваць працэсы.

Пасьля спыненьня чыннасьці КПСС уся паўната ўлады перайшла ад парткамаў і партакратыі да Саветаў і ўрадавых выканаўчых структураў. Такім чынам дзяржава апынулася ў руках посткамуністычнай наменклатуры. Каб запабегчы гэтаму, трэба было ўсяго толькі правесьці новыя выбары ў Саветы. Утварэньне новай незалежнай дзяржавы вымагала выбараў. Паколькі гэтага не здарылася, можна было не сумнявацца, што незалежная і ўвогуле дзяржаўная палітыка праводзіцца не будзе. Таму што камуністычная партыя на Беларусі і, адпаведна, яе наменклатурныя функцыянеры вылучаліся нацыянальным нігілізмам, антынароднасьцю і непрыняцьцем суверэнітэту. Вынікі такой правінцыяльнай пазіцыі ўладаў можна было таксама прадбачыць. Таму Беларускі Народны Фронт у той жнівеньскай сітуацыі павёў сябе абсалютна правільна: рэзка адмежаваўся ад наменклатуры. Было б абсурдам на хвалі моманту шукаць зь ёй агульныя інтарэсы ў адбудове незалежнасьці.

Тым часам наменклатура зразумела, што сіла яе ўлады ўжо не ў партыйнай арганізацыі, а ў неабмежаваным доступе да дзяржаўнай уласнасьці. Са жніўня 1991 года і пачалося адкрытае пераразьмеркаваньне дзяржаўнай маёмасьці ў прыватную і фінансавую ўласнасьць наменклатуры. Хаця вытокі гэтага працэсу значна ранейшыя. Ужо закон СССР 1987 года «Аб прадпрыемстве» даў магчымасьць ствараць прадпрымальніцкія структуры, перапампоўваць туды дзяржаўныя сродкі і фонды, ператвараць безнаяўныя грошы ў наяўныя. Гэта стымулявала ценявы рынак, двайныя цэны, дэфіцыт тавараў і інфляцыю. Махавік пачаў раскручвацца. Былі прынятыя адпаведныя палажэньні ў законах (напрыклад, аб магчымасьці дзяржаўным чыноўнікам займацца камерцыйнай дзейнасьцю), спрыяльныя для дзяржаўнай бюракратыі. Тым часам неабходных эканамічных законаў пад рынкавыя рэформы не прынята і не прымаецца. (Ні аб зямлі, ні аб дачыненьнях уласнасьці, не вызначаны уласьнікі, не ўпарадкавана фінінсава-крэдытная і падаткавая сістэма і г. д.).

(Заканчэнне на 3-й стар.).

# Беларускі Народны Фронт і разьвіцьцё палітычных працэсаў на Беларусі

(Заканчэнне. Пачатак на 2-й стар.).

Законы аб прыватызацыі не прымаюцца, а «прыхватызацыя» ідзе, інфляцыя трушчыць эканоміку і бурыць дабрабыт, а тым часам спрытныя дзялкі нажываюць мільёны рублёў на гэтай інфляцыі, як кажуць, грошы робяцца з нічога, з паветра. Наменклатура не зацікаўленая ў прыняцьці ўніверсальных рынкавых законаў, бо тады прыдзецца дзяліцца агульным багацьцем з народам. На сёньняшні дзень мы выразна бачым, што за вельмі кароткі час у Беларусі пад звон дэмагогіі пра рынак і эканамічныя рэформы створаны асновы мафіёзнай дзяржавы. Для класічнага лібералізму спатрэбіліся б дзесяткі гадоў, пакуль ён утварыў бы манаполіі, разбэсьціў грамадзянскую супольнасьць і падпарадкаваў бы сабе дзяржаўную ўладу, адкрываючы шлях да мафіёзнай дыктатуры. Тут жа ў посткамуністычнай Беларусі ўсё адбываецца як бы з другога канца—ад таталітарызму партыйнай алігархіі да бескантрольнасьці наменклатурнай бюракратыі, ад манаполіі на разьмеркаваньне да манаполіі на ўласнасьць.

Сітуацыя даволі небясьпечная, калі ўлічыць, што на Беларусі поўнасьцю захаваныя старыя структуры ўлады і адміністрацыйная сістэма ў эканоміцы, а псіхалогія посткамуністычных чыноўнікаў цалкам антынацыянальная правільцыяльнага кампрадорскага кшталту.

Пры разьвіцьці любога грамадзкага крызісу (асабліва на эканамічнай глебе) і пагрозе кіруючым структурам такая наменклатура здольная на самыя безразважныя дзеяньні. Пагроза крызісу і пытаньне адказнасьці за эканамічную і сацыяльную дэградацыю Беларусі ўжо паўстае. І што мы бачым? Поўную безразважнасьць. Каб пазьбегнуць адказнасьці, наменклатурны ўрад Кебіча гатовы, што называецца, здаць дзяржаву, адмовіцца і ад нейтралітэту, і ад суверэнітэту, пайсьці пад пратэктарат Масквы, шукаць там абароны. Ім не дарагая наша Бацькаўшчына, наша незалежнасьць, што зваліліся ім, як сьнег на галаву. Галоўнае—ўтрымацца ў сядле. Наменклатура, відаць, ужо дастаткова накрала і псіхалогія тут простая: чалавек зь мільёнамі не прападзе нідзе.

Цяперашні этап існаваньня наменклатурнай улады на Беларусі можна ахарактарызаваць як разьвіцьцё дзяржаўнай здрады. А пачалося ўсё з 29 кастрычніка 1992 года—часу незаконнай забароны рэферэндуму. Амаральнасьць і дэградацыя заканадаўчай улады пасьля гэтага брутальнага антыпраўнага акту відавочная. Цяпер добра відаць, як на фоне агульнага заняпаду дэпутацкай этыкі і маралі гэты Вярхоўны Савет няздольны бывае нічога стварацць, а толькі разбураць. Гэта разбуральны орган. Яго дзейнасьць наносіць шкоду дзяржаве і ўсяму нашаму грамадзтву.

Які выхад з гэтага тупіка пры адсутнасьці кантролю і, пра што я ўжо казаў,—механізму зьмены прадстаўнічай улады? Ёсьць некалькі варыянтаў. Самы рэальны—гэта той, які мы прапанавалі—законны і канстытуцыйны, шляхам рэферэндуму і нечарговых выбараў.

На мой погляд, Народнаму Фронту трэба пастаянна адстойваць гэты шлях, не паддавацца ні на якія новыя прапановы і маніпуляцыі, бо нельга жартаваць з такімі рэчамі, як права, закон і законная воля амаль паўмільёна грамадзянаў Беларусі. Усялякія новыя ініцыятывы тут недарэчныя. Вярхоўны Савет павінен адмяніць сваю незаконную пастанову аб адхіленьні рэферэндуму і на гэтым Народнаму Фронту неабходна стаяць.

Пры пагрозах незалежнасьці і грамадзтву, якія зыходзяць ад антынацыянальнай дзейнасьці Вярхоўнага Савета, мы не павінны забываць, што дзейнасьць яго пасьля 29 кастрычніка 1992 года не мае легітымнага характару. Яго рашэньні неабавязковыя; яны ўжо не прававога, а хутчэй палітычнага кшталту. Не сумняваюся, што будучы дэмакрытычны парламент вымушаны будзе перагледзець пастановы і законы гэтага Вярхоўнага Савета, прынятыя пасьля забароны рэферэндуму, зацьвердзіць, прызнаць альбо не прызнаць.

У той сітуацыі разбурэньня права і законнасьці, у якой жыве цяпер нашае грамадзтва, у сьвеце наменклатурнай карупцыі і бессаромнай нажывы за кошт дзяржавы, на мой погляд, актыўную палітычную ролю павінны адыгрываць дэпутаты ад Народнаа Фронту ў мясцовых Саветах. Тут, на жаль, шмат не выкарыстоўваецца.

Паглядзіце, як шчэмяцца ў Саветы бальшавікі. Дэпутацкія паўнамоцтвы даюць магчымасьці кантролю над дзеяньнямі ўладаў, запыту, распаўсюджваньня інфармацыі, неабмежаванага доступу да яе, заканадаўчай ініцыятывы, дэпутат недатыкальны і г. д. Дык чаму гэта не выкарыстаць на карысьць людзей, нават калі дэпутат адзін у Савеце?

За праўду, за культуру, за Бацькаўшчыну трэба змагацца. Палітыка—гэта валявая і інтэлектуальная барацьба. І не трэба прызнавацца ў сваёй слабасьці, бо слабых не любяць.

У шэрагу нашых грамадзкіх прыярытэтаў я асабліва адзначыў бы культуру. Нашыя недабразычліўцы нават мову хочуцьператварыць у сродак палітыкі. І не даацэньваць гэта нельга. Зьнявага і задушэньне нацыянальнай мовы—гэта альбо народная сьмерць альбо вайна. Мова—гэта сьвятое, тое, што належыць усім пакаленьням народа. Замах на мову ёсьць замах на народнае жыцьцё. І калі чалавеку, што разумее гэта, наступаюць на горла, ён пачынае бараніць сябе ўсімі сродкамі.

Тыя дзеяньні, якія мы бачым у дачыненьні да моваў народаў з боку вялікадзяржаўных расейскіх бальшавікоў—гэта найпадлейшая тыпова бальшавіцкая імперская палітыка, накіраваная на разьвязваньне крывавых канфліктаў і грамадзянскай вайны. Іхняя палітыка ўсюды аднолькавая: зьнявага і замах на мову карэннага насельніцтва дзяржавы. У Балтыі гэтая палітыка правалілася, на Украіне правалілася, а ў Малдове—разьвязалі вайну, у Таджыкістане—вайна. Я ўжо не кажу пра Каўказ.

Дзяржаўнасьць мовы карэннага народа, які стварыў нацыянальную дзяржаву, ёсьць бясспрэчнае права народа, гэтак жа, як права на жыцьцё. Такое права не дыскутуецца. Адраджэньне мовы, як выхад са стадыі нацыянальна-культурнай катастрофы, ёсьць сьцьвярджэньне гэтага права. Ніякія працэнты валоданьня мовай тут не маюць значэньня ў якасьці аргумента агітацыі за нацыянальную сьмерць. Наш народ не быў свабодны пад бальшавікамі, а тыя, хто абараняў беларускую культуру—расстраляныя. Працэс адраджэньня мовы—ёсьць працэс унутранага самаразьвіцьця, які абавязана падтрымліваць і рэгуляваць дзяржава.

Мы мусім добра ўсьведамляць гэта як і тое, што процідзеяньні нацыянальнаму адраджэньню, асабліва на стадыі выхаду з культурнай катастрофы, ёсьць дзеяньні не толькі антыгуманныя, але і проціпраўныя і ў сутнасьці сваёй антыдзяржаўныя.

Яны не дапушчальныя ў здаровым грамадзтве і павінны карацца законам.

Азіраючыся на пройдзены шлях, заўважаеш цікавую акалічнасьць. За апошнія два гады Народны Фронт набраў значна больш палітычнага вопыту, чым за папярэднія гады. Прычына зразумелая—гэты час мы жывем у незалежнай дзяржаве. Само жыцьцё прымусіла думаць людзей пра нацыянальнае войска, замежную палітыку, пра нацыянальныя грошы і курсы валют, пра нацыянальную дыпламатыю і дачыненьні з суседзямі і г. д. Спрыяюць гэтаму і непасрэдныя ўзаемадачыненьні з замежжам, асабліва знаёмства з Эўрапейскай палітыкай і ладам жыцьця.

Новы статус-кво нашага грамадзтва, новыя задачы, шырэйшыя перспектывы вымушаюць нас глыбей асэнсаваць нашыя праграмныя мэты і палітычныя дзеяньні. Новая праграма БНФ неабходная. Падыходы да яе пачаліся з канца 1992 года. Мы абмеркавалі шэраг важнейшых прынцыповых палажэньняў аб сутнасьці і зьмесьце нашай палітыкі, аб сьветапоглядных асновах руху, аб канцэптуальнасьці Фронту і яго палітычных нішах, аб адпаведнасьці еўрапейскім палітычным падзелам і г. д.

З усіх бакоў было разгледжана на Соймах пытаньне пра форму нашай арганізацыі. Сойм прыйшоў да высновы, што БНФ павінен заставацца рухам, шырокім Фронтам. Гэтая форма найлепш адпавядае той палітычнай сітуацыі, якая склалася і разгортваецца ў беларускім грамадзтве, напрацаваным традыцыям, адносінам людзей, пэўным падыходам, здольным разьвівацца. Зьвесткі з гэтых соймаў і асэнсаваньні высноваў былі надрукаваныя у «Навінах БНФ». На ўсе інсінуацыі ў саўмінаўскім друку пра нібыта ператварэньне БНФ у партыю можна адказаць коратка: «Жыве БНФ!» Народны Фронт быў, ёсьць і будзе шырокім народным рухам беларускага адраджэньня.

Гэта якраз і сьцьверджана ў праекце новай Праграмы БНФ. Галоўным зьместам нашай палітычнай дзейнасьці, што мы і адлюстроўваем у праекце Праграмы, ёсьць вольны чалавек у вольнай Бацькаўшчыне, у нацыянальнай дзяржаве. Праз свабоду і дабрабыт чалавека да свабоды і дабрабыту грамадзтва, праз культурнае разьвіцьцё і маральнасьць асобы да адраджэньня культуры і маральнасьці ўсёй супольнасьці—вось схема. Кожны чалавек павінен мець магчымасьць для рэалізацыі сваіх шансаў у грамадзтве. А паколькі шансы няроўныя, кожны павінен мець справядлівыя гарантыі іх здабыцьця, абапіраючыся на салідарнасьць супольнасьці. Мы прапануем прынцып сацыяльнай эканомікі, заснаванай на салідарным супрацоўніцтве працаўніка і вытворцы, якое рэгулюецца дагаворам і падмацаванае сістэмай права.

Вялікую ўвагу мы надаём стварэньню ўмоў для здаровай сям'і, выхаваньню дзяцей, выхаваньню ў іх усьведамленьня свабоды і вяршэнства агульнага дабра. Бо якая сям'я, такое і грамадзтва. Мы надаем вялікае значэньне нацыянальнай дзяржаве як найвялікшай грамадзкай, культурнай каштоўнасьці. Для беларусаў нацыянальная дзяржава—важнейшы чыньнік культурна-нацыянальнага адраджэньня і гістарычнага існаваньня.

Мы адзначаем блізкасьць сьветапоглядных і палітычных прынцыпаў нашага народнага руху да ідэяў, выпрацаваных у пасьляваеннай Эўропе. Мы заўважаем крызіс сацыял-дэмакратычных і лібералъных урадаў, адзначаем жыцьцёвасьць і перспектыву народнай сістэмы хрысьціянска-дэмакратычных краінаў. Аднак, няма нічога вечнага ў тым ліку і сацыяльна-эканамічных сістэмаў.

Вуглавым каменем увогуле ўсёй дэмакратыі ў Эўропе зьяўляюцца правы чалавека, прыярытэт іх перад нацыяй і дзяржавай. Гэты тэзіс саслужыў добрую гуманную службу на карысьць дэмакратыі, але пачынае перажываць ужо крызіс, які рызыкуе выліцца ў вялікія сацыяльныя праблемы і канфлікты. Спалучэньне гэтакага прыярытэту з ліберальным прынцыпам здабыцьця прыбытку прывяло ў некаторых краінах (напр., Францыя, Бельгія) да беспрацоўя сярод карэннага насельніцтва і да сацыяльных перавагаў міграцыйным меншасьцям з краінаў трэцьцяга сьвету, часам нават неграмадзянаў.

Мы мяркуем не аб прыярытэтах правоў чалавека перад нацыяй і дзяржавай, а аб іх парытэце, гэтак жа, як аб балансе правоў і абавязкаў паміж асобай і грамадзтвам.

Выбар у кожным канкрэтным выпадку павінен рэгламентавацца законам і вызначацца палітыкай, зыходзячы з прынцыпу вяршэнства агульнага дабра. У праекце Праграмы мы запісалі: «Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» зыходзіць з таго, што правы асобы й правы народу ўтвараюць непарыўнае адзінства, якое ёсьць падмуркам сапраўднае дэмакратыі.

Нацыянальная дзяржава абараняе і падтрымлівае грамадзкую супольнасьць, паяднаную культурнай спадчынай. Асоба, яе свабода, дэмакратычнае грамадзтва рэалізуюцца толькі ў незалежнай дзяржаве».

Пасьля прыняцьця новай Праграмы БНФ перад намі паўстане вялікая задача падрыхтоўкі яе ажыцьцяўленьня. Гэта вялікая праца вымагае прытоку новых сілаў, сьвежых розумаў, актыўнай ініцыятывы. Мы павінны старацца, каб шырокія колы інтэлігенцыі, сьпецыялісты прыйшлі ў БНФ. Увасабленьне такой праграмы ў жыцьцё не павінна быць клопатам толькі палітыкаў, а ўсяго дэмакратычнага грамадзтва Беларусі.

Аднак, безумоўна, выканаць гэтую праграму, увасобіць у канкрэтныя законы, працэдуры і грамадзкія дачыненьні можна будзе толькі маючы магчымасьць выкарыстаньня функцыяў улады. Таму важнейшай практычнай задачай Народнага Фронту ў наступныя два гады павінна стаць падрыхтоўка да парламенцкіх і мясцовых выбараў. Тут шмат працы і шмат пра што можна б было сказаць, але зазначу толькі галоўную праблему, ад вырашэньня якой, на маю думку, залежыць поспех БНФ на выбарах.

А посьпех будзе тады, калі моладзь, маладыя людзі пойдуць на галасаваньне. Наша грамадзтва ў выніку мэтанакіраванай міграцыйнай палітыкі былога СССР на чвэрць складаецца са старых людзей, адстаўнікоў і пенсіянераў. Пры гэтым грамадзтва прадаўжае старэць. Відавочна, псіхалагічным вынікам такога старэньня нацыі зьяўляецца поўная апатыя моладзі да палітыкі і ў значнай ступені да грамадзкіх справаў. На выбары маладыя не ходзяць. Тым часам сацыялагічныя дасьледаваньні пастаянна паказваюць, што найбольшую падтрымку Фронт мае якраз сярод маладых і найменшую сярод пенсіянераў, якія, дарэчы, палітычна найбольш актыўныя і агрэсіўныя.

Цяпер уявім, што заўтра выбары. На галасаваньне дружна прыходзяць пенсіянеры (гэта каля 40 працэнтаў выбаршчыкаў), яшчэ той-сёй, а моладзь, натуральна, не прыходзіць. У выніку скажам, з 51 працэнту прыйшоўшых у сярэднім 73 працэнты галасуе супраць БНФ. Увогуле палітычная сітуацыя з галасаваньнем можа скласьціся абсурдная, калі лёс выбараў, лёс палітыкі, будучыні Беларусі і гэтай жа моладзі будуць вызначаць старыя, пенсіянерская меншасьць. Няцяжка ўявіць, за каго яны прагаласуюць і што за парламент выберуць.

Нельга дапускаць абсурду. Моладзь павінна ісьці на выбары. Але з другога боку абсурдная сітуацыя носіць часовы, пераходны характар. Будучыня за маладымі. І калі моладзь з намі, то будучыня таксама за БНФ. А калі так, то прышласьць, сьветлая перспектыва нашай Бацькаўшчыны не за гарамі. Набліжайма ж яе са шчырасьцю і стараньнем. Бо няма лепшай радасьці для вольнага чалавека, як быць вольным у вольнай краіне. Жыве Беларусь!

**Справаздачны даклад прачытаны на III з'ездзе БНФ 29 траўня.**

## Пакіньце хоць гэтую радасць

Прыгадваеце, як колькі гадоў таму дзеці—вашыя ці суседзкія—з радасцю прыносілі граматы за поспехі ў школе?

Зараз такой «маленькай» радасці шкалярскага жыцця нашыя дзеці могуць пазбавіцца. Днём са свечкаю ў кнігарнях не знойдзеш лістоў гэтых грамат, падзяк. З адыходам вонкавых прыкмет сацыялізму зніклі з продажу й бланкі гэткіх дакументаў.

Але з'ява сама па сабе не сыйшла ў нябыт. Дый, мусіць, пазбаўленая саўковасці будзе і далей існаваць. Калі ёсць выдатныя дзеці, чаму ў выхаваўчых мэтах школа не можа падзякаваць ім за поспехі?

Пакуль настаўнікі шчэ неяк выкручваюцца. Робяць падобныя дакументы, часам перамалёўваючы старыя ўзоры на новы лад. Напрыклад, замест камуністычнай сімволікі—беларускую. Аднак ужо дзе-нідзе не дбаючы пра эстэтыку выдаюць школьнікам граматы на паперы... са сшыткаў.

Але ж такі стан рэчаў, пэўна ж, не можа доўга цягнуцца. Хтось з міністэрства народнай адукацыі павінен урэшце хутчэй вырашыць гэтую праблему, парупіцца пра выпуск падобных дакументаў увогуле. І канкрэтна: на беларускай мове і з нацыянальнай сімволікай.

**М. ВАЛАЧОБНІК.**




**СТАРОНКА ВІЦЕБСКАГА КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКАГА КЛУБА «УЗГОР'Е» ВЫПУСК № 4**


1 Фрагмент непаліванай кафлі з раслiннымі формамі. Канец XIX ст.

Алесь МЕМУС

# РЭХА ВІЦЕБСКАГА МАДЭРНА

(успамін трэці)

Як частка агульнага кантэксту развіцця культуры на Беларусі і чалавечае цывілізацыі ўвогуле, гісторыя Віцебска арганічна ўбірала ў сябе і па-свойму адбівала здабыткі пластычнае культуры вякоў. Кожны час і адпаведны яму стыль пакідалі ў пластычнай структуры горада свой след, свае характэрныя рысы, складаючы разам не толькі яскравы летапіс эстэтычных прыхільнасцяў і мастацкага мыслення пакаленняў яго насельнікаў, але й пакідаючы ў спадчыну нашчадкам свой запавет харaства, сваё імкненне да самасцвярджэння праз лад і гармонію, без якіх ніякае тварэнне не мае сапраўднага чалавечага сэнсу.

Часы візантыйскіх уплываў, готыка і рэнесанс, эпохі класіцызму і барока, часы гістарызму, калі ў адным будынку адбіваўся розгалас ледзь не ўсяго, што было раней, і што ядналася адным паняццем эклектызму, і, нарэшце, спроба правяцца ў небывалае—час мадэрна... Усё бытавала ў гэтым горадзе, складаючы разам непаўторную кветку Старога горада.

На вялікі і нязбыўны наш жаль, тую кветку нашае агульнае душы мы не зберaглі. І калі сёння дапытлівы юнак ці дзяўчына з таго ж мастацка-графічнага факультэта або проста цікаўны школьнік паспрабуе спасцігнуць гісторыю архітэктурных стыляў, цяжка яму будзе гуляючы зруйнаванымі вулкамі горада, знайсці адпаведныя рысы і строі старых пабудоў, архітэктурныя дэталі, дэкаратыўныя прыёмы. Ні замкавых вежаў, ні данжонаў, ні картушаў, ні старых гербаў, ні алтароў, ні старых каланад, ні галерэй, ні купалаў, ні старадаўніх фрэсак і вітражоў, ні атлантаў з карыятыдамі, ні звычайных у старым горадзе маскаронаў ці ратондаў яны ўжо не знойдуць.

Уявіце, якія мы бедныя і якімі багатымі былі яшчэ ўчора.

Але сёння мне хацелася б з вамі, шаноўны чытач, зглядзець ацалелыя рысы, як адчуць ужо далёкае рэха, хаця б найбліжэйшага да нас па часе стылю, росквіт якога быў ужо на пачатку нашага стагоддзя, і які быў апошнім сведкаю яшчэ жывога горада.

Стыль гэты, які склаўся да канца XIX ст.. як спроба пераадолення эклектызму ды стварэння новага стылю мадэрн, у Германіі і Аўстрыі атрымаў найменне як югендстыль, альбо сецэсіён, а ў Францыі азначаўся чароўным гукам ар нуво.

Сённяшнія даследчыкі гісторыі архітэктуры Віцебска канца XIX—пачатку XX ст. трапляюць у своеасаблівую пастку, як толькі набліжаюцца да пытанняў мадэрна. Вялікія страты архітэктуры, а разам з імі дэкаратыўнага

Фрагмент кафлі з зялёнай паліваю з выяваю кветак званочка. Пачатак XX ст.


2

3 Непаліваная кафля (частка карнізу печы) у выглядзе стылізаваных раслінных формаў. Пачатак XX ст.

6 Поліхромная кафля ў зялёных і ружовых тонах у стылі «спелае» сецэсіі. Пачатак XX ст.

8 Керамічная плітка з характэрным дэкорам фармальнага малюнка ў стылі мадэрн. Пачатак XX ст.


3



Фрагмент непаліванай паясковай кафлі з дэкорам вадзяных раслін у характэрнай хвалістай стылістыцы мадэрна. Пачатак XX ст.



Сіняя паліваная кафля з жанравою сцэнкаю «Гульцы ў карты». Пачатак XX ст.

ўбрання інтэр'ераў, вонкавай аздобы з металу, дрэва, керамікі, беднасць матэрыялізаваных прыкладаў ставяць іх адразу ў тупік. Усё тое, што падаецца як прыклад мадэрна, пазбаўлена на самой справе яго выразна-пластычнай непаўторнасці, яго сваволльна-непрадказальнага дынамізму, таго асаблівага капрызлівага характва яго лініі, якое ўвасабляе лепшыя рысы росквіту сапраўднае сецэсіі.

У чыстым выглядзе гэтыя лепшыя рысы віцебскі мадэрн захаваў хіба толькі ў рэштках кафлі пачатку XX ст., якая там-сям бытавала ў старых кварталах горада ў якасці пячнога дэкору аж да пары апошняй т. зв. рэканструкцыі старых камяніц. Нізкая культурная свядомасць тых «рэканструктараў», якія знішчаючы апошнія аўтэнтычныя інтэр'еры, знішчылі і апошнія кафельныя печы ў іх, выкідваючы іх на сметнік (папярэдне пакрышыўшы ўсё ламамі), паставіла мо і апошнюю кропку на існаванні ў Віцебску прыкмет сапраўднага мадэрна.

Як адзін з відаў архітэктурна-дэкаратыўнае керамікі, якая выкарыстоўвалася як для знешняй аздобы, так і для ўбрання інтэр'ераў, кафля бытавала ў Віцебску з даўніх часоў. Спецыялізацыя рамёстваў спрыяла росквіту ўсіх яго відаў, а выгоднае геаграфічнае становішча добрым кантактам як з заходам, так і з усходам. Усё разам спрыяла імкненню горада да паўнакроўнага жыцця, а будаўніцтву—да дасканаласці і характва.

Калекцыя кафлі, здабытая ў Віцебску археолагамі, дэманструе высокі мастацкі ўзровень керамічнага майстэрства ў ім ва ўсе часы яго існавання, а сталая традыцыя спрыяла хуткаму водгуку на «моду», таму да канца XIX ст., калі з'явіліся першыя парасткі стылю «мільянераў» (як часам мадэрн абзывалі, падкрэсліваючы яго асаблівую культывацыю пластычнае дасканаласці і высокую тэхніку выканання), віцебскія ганчары прыйшлі не толькі з вялікім эстэтычным вопытам, але і добра ўзброеныя тэхнічна.

Былая ганчарная слабада ў Задзвінні, вядомая даследчыкам ужо з XIV-XVI ст.ст. (гл. выданне В. Ляўко «Витебские изразцы XIV—XVIII ст. ст.») у XIX ст. ператвараецца ў кафельны завод, набываючы з часам славу, якая спрыяла вялікаму попыту на віцебскую кафлю не толькі па ўсёй Беларусі, але і за яе межамі.

Цудоўная апрацоўка, багатая каляровая гама палівы, пластычная дасканаласць і вынаходлівасць стваралі цуды. Можна толькі здагадвацца (а тое-сё і ўбачыць у цудоўным альбоме «Беларуская кафля» выдання 1989 г.), як выглядалі кафельныя печы ў старых камяніцах, якое багацце кампазіцыйных прыёмаў дэманстравалі яны, якую аздобу для інтэр'ера неслі ў сабе іх дасканалыя сілуэты, аздобленыя бліскучым дыванам мадэрновай пластычнай шчодрасці.

Нават тое, што захоўваецца ў маім асабістым зборы і што бачыць шаноўны чытач на здымках, дэманструе цудоўнае разуменне віцебскімі майстрамі сутнасці пластыкі мадэрна, яе «самазасяроджанасць», выкшталцонасць ніклых ліній, своеасаблівую элегічнасць пластычнага настрою, «нервовую» сутаргавасць запаволенай дынамікі раслінных формаў—той славуты дэкаданс, якім пужалі савецкія даследчыкі мадэрна прыхільнікаў «буржуазнай» прыгажосці ар нуво.

P.S. Выкарыстаныя аўтарам здымкі ілюстрацый (дарэчы, публікуюцца ўпершыню) зроблены з асобных фрагментаў кафлі мадэрна, падабраных на сметніках падчас апошніх варварскіх «рэканструкцый» Старога горада, а іншыя знойдзены проста на берагах Дзвіны, дзе да стварэння «бетоннага саркафага», які мы вымушаны зваць набярэжнай, хвалі выносілі няздлічоныя прыкметы багатае і неацэненае віцебскае гісторыі.





Фрагмент кафлі з выявою картуша (ружовая гліна). Канец XIX ст.





# Там спрадвеку гучыць мая мова...

*Ул. Караткевіч*

# ХТО ВУЧЫЦЬ БЕЛАРУСАЎ НЕ ЛЮБІЦЬ РАДЗІМУ,

## альбо Невялікі урок лікбезу для Славянскага сабора «Белая Русь»

**В. Космач спрабаваў надрукаваць гэты матэрыял у «Віцьбічах». Але пасля больш чым двухтыднёвага чакання ягонага з'яўлення па бачынах гарадское газеты, перадаў артыкул «Выбару».**

Яго мне хочацца адрасаваць С. Голубеву, аднаму з актыўных дзеячаў Славянскага сабора «Белая Русь» у Віцебску. Хацелася б адразу звярнуць увагу чытача на гэту акалічнасць, бо не ўсе рускія (сярод іх і ў Віцебску, і ў Маскве я маю добрых сяброў) могуць так разбэшчана зневажаць беларусаў, як гэта зрабіў С. Голубеў у сваім артыкуле «Кто нас учит Родину любить?» у 49 нумары «Віцьбічаў» за 4 мая бягучага года. Не буду гаварыць ад імя ўсяго народа Беларусі, як гэта робіць неаднаразова С. Голубеў, але на маім сэрцы пасля прачытанага засталіся агіда і боль адначасова. Няўжо так, як С. Голубеў, аб беларусах, беларускай мове, гісторыі і культуры беларускага народа думаюць усе рускія, якія жывуць у нашым горадзе ці рэспубліцы? Не дай божа, як гавораць. Ды і сам я ў такое не веру. А вось паўдзельнічаць у «полемических посиделках» «Віцьбічаў» пасля таго, што напісаў аб беларусах і беларускай інтэлігенцыі (у тым ліку і пра мяне), мне вельмі хочацца. Праўда, я не лічу, што такія лексічныя выкіды тыпу «кучка карьериствующих интеллигентов», «наиболее оголтелые проводники белорусизации», «гнилые головешки интеллигентского национализма» і іншыя павінны абавязкова прысутнічаць, толькі адваротнай накіраванасці, і ў маім артыкуле, як гэта маецца ў артыкуле С. Голубева. Такія выкіды выкарыстоўваюцца рознымі аўтарамі прыкладна ў двух выпадках —тады, калі не хапае простай культуры і інтэлігентнасці, ці тады, калі апанент не ведае ці фальсіфікуе тую ці іншую з'яву і выказвае пры гэтым свае асабістыя эмоцыі.

Я не хачу ісці такім шляхам. Я прафесійны гісторык, а прафесійны гісторык павінен гаварыць аб тых ці іншых падзеях, з'явах з халодным сэрцам і цвярозым розумам. Адначасова хачу адразу супакоіць С. Голубева і яго прыхільнікаў яшчэ ў адной акалічнасці, раз яна прагучала ў артыкуле майго апанента. Па спецыяльнасці я навуковец у галіне ўсеагульнай гісторыі. Тэматыка маёй навуковай працы не змянялася ні раней, ні цяпер. Гэта Германія 1919—1933 гг., ці перыяд знакамітай у нямецкай гісторыі Веймарскай дэмакратыі. Смешна мне стала і ад таго, што С. Голубеў залічыў мяне ў партыйныя функцыянеры. Хоць і тут ёсць, як гавораць, над чым паразважаць. Але гэта, напэўна, складана для тых, хто захацеў «вступить на труднейший путь восхождения к высотам духовности и культуры». А цяпер, таварыш С. Голубеў, адказваю вам па сутнасці.

«Возрождать можно то, что когда-то существовало, а в данный момент либо вовсе не наличествует, либо разрушено и не фукционирует»—гэта такі шэдэўр вялікага філосафа С. Голубева быў выдадзены ў адносінах да беларускай мовы. Дык вось, мой паважаны апанент, беларуская мова не толькі «наличествовала», але і «функционировала» і з'яўляецца нават больш старажытнай, чым руская. На беларускай мове ўбачылі свет усе зводы законаў нашай старажытнай дзяржавы—Вялікага княства Беларуска-Літоўскага. Захавалася многа гістарычных крыніц менавіта на мове беларусаў. І мова Бібліі Ф. Скарыны, паважаны С. Голубеў, і іншых яго твораў—не царкоўна-славянская ў спалучэнні са старарускай, як вы сцвярджаеце, а царкоўна-славянская ў спалучэнні з беларускай з дапаўненнем польскай і чэшскай. Каб чытач усё ж вырашыў (ды і таварышу С. Голубеву гэта не пашкодзіць, калі ён да вышынь духоўнасці імкнецца), дзе ўсё ж такі «не более, чем шитая белыми нитками подтасовка», дастаткова зазірнуць у саму Біблію Ф. Скарыны і энцыклапедычнае выданне «Франциск Скорина и его время. Энциклопедический справочник». (Мн., 1990, стар. 249—250). Усе кропкі над «і», як гавораць, будуць расстаўлены. Аднначасова здымаецца і ваша хлусня аб слуцка-амерыканскім варыянце беларускай мовы, над якім быццам бы працуе цяпер наша беларускамоўная інтэлігенцыя. Наша мова, як дарэчы і руская ці іншая, мела і мае свае мясцовыя дыялекты. Гэта нармальнае становішча, на мой погляд.

Здзіўлены вельмі заявай С. Голубева аб тым, што «белорусскоязычная интеллигенция видит врага в каждом, кто отстаивает всего лишь свое право говорить на русском языке». Гэта хлусня. А можа таварыш С. Голубеў захварэў? Бо як можна чытаць «шедевр» С. Голубева далей: «...почему вы так боитесь всего русского, объявляете русских чужой расой, более того—врагами белорусов, а русскую культуру—культурой дикарей и рабов». І тут хлусня, бо нашы навукоўцы ніколі аб гэтым не гаварылі. Рускі народ—гэта нашы суседзі і браты па ўсходне-славянскай гісторыі. Беларусы, таварыш Голубеў, добра ведаюць і памятаюць, што не ўвесь рускі народ, а расійскі царскі ўрад знішчаў усё беларускае. Нават назва «Беларусь» была забаронена. Як прыхільнік расійскай манархіі вы гэта павінны добра ведаць, і я мог бы працытаваць вам не менш, а больш абразлівыя дакументальныя матэрыялы ў адносінах да беларусаў, чым тыя, якія вы цытуеце ў сваім артыкуле. Але гэта, як гавораць, пры сустрэчы. Пагэтаму нацкоўваць беларускамоўную інтэлігенцыю на рускіх, гэта справа бесперспектыўная, як і шкадаванне наконт таго, што беларусы не маюць свайго беларускамоўнага Салжаніцына ці Распуціна з Бандарчуком. Беларусы і не могуць мець іх, бо наш народ не манархічны і вялікаімперскі па духу. Вы яшчэ пашкадавалі б, што ў нас няма свайго Аляксандра Зіноўева. Ён таксама ў вышэйназваную каманду добра падыходзіць. А што датычыцца творчасці, то ў нас ёсць не менш выдатныя імёны М. Багдановіча, Я. Купалы, Я. Коласа, В. Быкава і многіх іншых. Але тут бяда адна для С. Голебева—на мове беларускай яны тварылі, а гэта для «Белай Русі», што костка ў горле. Прыкладна так, як бальшавікі і яўрэі для С. Голубева.

Дарэчы аб бальшавіках, якія быццам былі «первыми белорусификаторами», і аб тым, што «белорусский народ» не прымаў удзелу ў беларусізацыі. Тут наогул няведанне гісторыі, бо лічыць, напрыклад, А. Чарвякова, З. Жылуновіча, Ф. Шантыра, А. Баліцкага, У. Ігнатоўскага і іншых бальшавікамі ці яўрэямі, тым больш называць іх «кучкой карьериствующих интеллигентов», гэта тое ж самае прыкладна, што пераблытаць Гітлера і канцлера Х. Коля ў германскай гісторыі. А што датычыцца прыезду на Беларусь і ў наш горад небеларусаў у 20-я гады і раней, тым больш такіх знакамітых, што працавалі разам з М. Шагалам, то таварышу рускаму С. Голубеву да іх яшчэ далёка. Ізноў жа пры сустрэчы магу пазнаёміць з задавальненнем з архіўнымі матэрыяламі 20-х гг. аб значнай падтрымцы насельніцтвам беларусізацыі, а заадно зняць яшчэ адну хлусню С. Голубева аб тым, што Сталін «отправил в места не столь отдаленные несколько десятков белорусскоязычных интеллигентов в основном не белорусского происхождения» і на гэтым беларусізацыя скончылася. Не, таварыш С. Голубеў, сталінскія рэпрэсіі ў Савецкай Беларусі ахапілі больш двух з паловай мільёнаў жыхароў, і не дзесяткі, а сотні тысяч беларускіх інтэлігентаў загінулі як «нацдэмы». Дарэчы, гэтыя «нацдэмы» ў 20-я гады абвясцілі чатыры мовы на Беларусі дзяржаўнымі, у тым ліку рускую.

Можна яшчэ гаварыць аб іншых выкідах С. Голубева ў адносінах да беларусаў і беларускай мовы, беларускамоўнай інтэлігенцыі і гісторыі Беларусі. Усюды хлусня спалучаецца з ненавісцю да ўсяго беларускага. І калі С. Голубеў лямантуе наконт таго, што на Беларусі павінна быць двухмоўе, то мне становіцца смешна, бо я добра ведаю, што такое С. Голубеў і «Белая Русь». Дарэчы, непрыемна бачыць назву «Белая Русь» на вялікарускім, шавіністычным руху.

І апошняе. Што мы збіраемся адраджаць? Мы збіраемся адрадзіць і практычна ажыццявіць беларускую ідэю, таварыш Голубеў, у якой тры накірункі, калі вы ведаеце—беларуская дэмакратычная дзяржаўнасць, мова і культура беларусаў, нацыянальная самасвядомасць беларусаў. Хачу ўпэўніць вас, што ніхто рускіх зневажаць не будзе, калі такія, як вы, не старнуць рабіць правакацыйныя захады са спробай вярнуць нас назад у імперыю, зневажаць усё нацыянальнае, што ёсць і будзе ў беларусаў. Народ разбярэцца, дзе яго праўда. Гэта адзінае, у чым я згодзен з С. Голубевым.

**В. КОСМАЧ.**



*Пачытайце дзеткам вершы*

Ягор КАСЯКОЎ

### Дождждык

Над зямлёй павіслі хмары.
Гром грыміць—дрыжаць
абшары.
Цёмна стала, як уночы,
А маланка слепіць вочы.

На лужку намоклі зёлкі.
Паляцелі ў вулей пчолкі.
І з квактухай кураняты
набліжаюцца да хаты.

А пушысты стары кот
Шчэ раней пакінуў плот,
Дзе на птушак паляваў—
Затаіўшыся ляжаў.

Не спяшаюцца да хаты
Толькі ў дождждык гусяняты,
Задаволена гагочуць,
Бо даўно памыцца хочуць.

## Ёсць яшчэ надзея

Кожную вясну ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці Віцебска збірае яркае і незабыўнае свята. Калектывы непрафесіяналаў сваімі выступленнямі, самабытным народным талентам яшчэ раз даказваюць, што крыніца беларускіх самародкаў невычэрпная: настолькі прыгожа і непаўторна, настолькі прафесійна гучаць галасы рабочых, урачоў, настаўнікаў...

Не першы год існуе ў Рубаўскай сярэдняй школе калектыў мастацкай самадзейнасці, які выступае на беларускай мове, мове Купалы і Багдановіча, мове нашых бацькоў і дзядоў, мове, у якой чуецца і гоман траў, і шум родных лясоў, і подых блакітных беларускіх азёр. Як чысты струменны ручай гучыць яна ў вуснах тых, хто не забыўся, адкуль ён родам, хто застаўся верным сваёй гісторыі і культуры. А без гэтага не быць і новай квітнеючай вольнай нашай маці—Беларусі.

Прайшоў конкурс. Удзельнікі выступлення выходзяць вясёлыя і ўсхваляваныя, дзеляцца сваімі ўражаннямі і не хаваюць радасці, што зноў падарылі людзям сустрэчу з беларускімі песнямі і танцамі, з беларускай мовай. Неаднаразова гэты калектыў займаў першыя месцы сярод удзельнікаў мастацкай самадзейнасці—калектываў народнай асветы Віцебскай вобласці. І няхай не ўсё праходзіць гладка, няхай строгае журы заўважыць нейкія хібы ў выкананні, галоўнае не ў гэтым. Калі працягваецца адраджэнне старажытных народных песень і танцаў, калі ўспамінаюць людзі сваю родную, але амаль забытую беларускую мову, калі нягледзячы на ўсе цяжкасці сучаснасці, пяюць і не сумуюць людзі—значыць рана казаць пра заняпад нацыі і культуры, значыць—у гэтага народа будзе будучае.

**Вячаслаў БЕЛАВУС,**
**настаўнік гісторыі і грамадазнаўства Рубаўскай СШ.**





Удзельнікі мастацкай самадзейнасці Рубаўскай СШ. Фота аўтара.

## Ні мёртвым, ні жывым

На свята Перамогі першае слова ў народзе—аб паўшых. А якая пазіцыя ўладаў? Своеасаблівую ўвагу аказаў удзельнікам вайны ўрад Беларусі. Напярэдадні свята Перамогі быў апублікаваны наступны дакумент: «Распараджэнне Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь № 354. У сувязі са Святам Днём Перамогі аказаць матэрыяльную дапамогу ветэранам Вялікай Айчыннай вайны ў памеры 6 тысяч рублёў, і сем'ям ваеннаслужачых, якія загінулі ў гэтай вайне,—3 тысячы рублёў. Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В. Кебіч». З гэтага распараджэння вынікае: калі франтавіку пашанцавала дажыць да сёлетняга свята, то атрымае шэсць тысяч рублёў, а загінуўшыя (няхай ім будзе зямля пухам!) будуць узнагароджаны па тры тысячы рублёў кожны (пасмяротна).

Як бы тут ні хаваліся аўтары ўрадавага цыркуляра за словы «...сем'ям ваеннаслужачых, якія загінулі ў гэтай вайне...», ісціна вышэй прыведзенага дакумента праглядваецца выразна: акцыі паўшых ацэнены ў 2 разы меней, чым уцалелых і цяпер «здравствующих», дай ім Бог здароўя. Да такога дзеляжа і міззэрнасці матэрыяльнай дапамогі паміж мёртвымі і жывымі, канечне ж, у народзе не дадумаліся б. Для гэтага трэба быць чыноўнікамі і сядзець ва ўрадзе!

У развітых краінах ветэраны другой сусветнай вайны матэрыяльна забяспечаны, а нашы франтавікі, якія абаранілі свет ад «карычневай чумы», працягваюць бедстваваць. Яны цяпер нават не могуць падысці да прылаўка паза чаргой. Раззлаваны натоўп вые і крычыць: «Многа вас тут ходзіць, не перадохлі яшчэ!»

Дарагія ветэраны, што засталіся ў жывых! Вы паказалі ўсяму чалавецтву сваю непераўзыдзеную воінскую доблесць. Але што вы маеце сёння? А што мелі ўчора абаронцы Айчыны, якія так і скончылі ў галечы свае жыцці? Так званыя «ільготы», над якімі могуць толькі куры насміхацца. Да нашых дзён загінуўшыя ў той вайне яшчэ не ўсе пахаваны па-людску.

Затое наменклатуршчыкі КПСС сябе не забывалі. Яны пабудавалі для сябе камунізм і вельмі добра жылі ў ім. І цяпер яны добра ўладкаваліся. Чаго ж яны больш за ўсё баяцца? Каб наша родная Беларусь не стала прававой дэмакратычнай дзяржавай. А гэта адбудзецца як мага хутчэй толькі ў тым выпадку, калі мы ўсе, ветэраны і моладзь, мірным дэмакратычным шляхам вызвалім нашу краіну ад засілля неабальшавіцкіх чыноўнікаў, якія заселі ў Саветах народных дэпутатаў усіх узроўняў, занялі там глыбока эшаланіраваную кругавую абарону.

І ніякія падачкі ў інфляцыйных рублях няхай не адхіляюць вас, дарагія ветэраны, ад блізкага дыхання свабоды. Вы заваявалі яе свяшчэннай кроўю, пралітай за Айчыну. Магілы вашых аднапалчан у многіх краінах, у розных кутках планеты. Але гэтая жаданая, аплочаная такой вялікай крывёй свабода да нас так і не прыйшла. Да гэтых пор народ так і не змог рэалізаваць плады вашай Вялікай Перамогі 1945 года, не змог наладзіць сабе чалавечае жыццё. Памятайце пра гэта, дарагія ветэраны, у імя нармальнага жыцця і сапраўды свабоднай працы на сябе вашых дзяцей і ўнукаў.

**А. БУКАЧОЎ.**

# Як наш урад пра нас клапоціцца

Нядаўна беларускі ўрад ашчаслівіў нас двума вельмі ж добрымі пастановамі: Адна з іх—№ 167 ад 22 сакавіка гэтага года называецца «Аб павышэнні мінімальнай заработнай платы і змяненні нарміруемай велічыні сродкаў, накіроўваемых на аплату працы». Аналагічныя пастановы Саўмін ва ўмовах галапіруючай інфляцыі цяпер прымае ці не кожны месяц. Тым самым дзякуючы ўсё той жа інфляцыі ўрад можа дэманстраваць свае «клопаты» аб народзе, амаль штомесяц павышаючы мінімальны заробак. У згаданай пастанове мяне зацікавіў пункт 4, які не зусім стасаваўся з назвай дакумента. Вось як ён гучыць: «...З мэтай узмацнення матэрыяльнай падтрымкі сем'яў якія выхоўваюць дзяцей, даручыць Дзяржкамітэту па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва і Мінфіну прыняць рашэнне аб прыпыненні на 1993 год дзеяння пункта 24 Палажэння аб парадку вылічэння сукупнага даходу на члена сям'і пры назначэнні дапамог на дзяцей».

З гэтых слоў спачатку можна зразумець толькі адно: наш урад клапоціцца аб сем'ях, якія выхоўваюць дзяцей. Супрацоўнікі ўпраўлення аблвыканкама па працы і сацыяльнай абароне працоўных растлумачылі, што значыць казённая канцылярышчына ў перакладзе на чалавечую мову. Аказваецца, згодна з пунктам 24 вышэйзгаданага ў пастанове Саўміна «Палажэння...» у сукупны даход кожнага члена сям'і ўключаўся і даход ад прысядзібнага ўчастка. Тое, што сям'я зарабляла на сваім кавалку зямлі, урад Беларусі лічыў да апошняга часу дзяржаўнай дапамогай гэтай сям'і на выхаванне дзяцей. У сакавіку бягучага года ўрадавыя чыноўнікі зразумелі, што тут не хапае логікі. Але зразумелі не да канца, таму дзеянне недарэчнага пункта толькі прыпынена на 1993 год.

Але вельмі цікавая рэч—дапамога нашай дзяржавы сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей. Аказваецца, яна налічваецца паводле сукупнага даходу кожнага члена сям'і ў мінулым годзе. Каб атрымаць гэтую дапамогу сёлета ў памеры 100% сукупны даход на кожнага члена сям'і за прошлы год павінен быць не больш 1970 рублёў, у памеры 50%—2955 рублёў, зыходзячы з фактычнай зарплаты за мінулы год. А пры чым тут мінулы год? Ужо ў гэтым годзе і цэны, і зарплата ўзнімаліся неаднаразова. Калі ў канцы 1992 года мінімальная зарплата складала 2 тысячы рублёў, то цяпер ужо больш 6 тысяч. Ці думаюць пра гэта нашы ўрадавыя чыноўнікі? Напэўна ж, не. Бо іх дзеці і ўнукі, пэўна, цудоўна абыходзяцца без гэтай «дапамогі».

І яшчэ адна пастанова Саўміна апошняга часу. Згодна з ёй у Першамайскім раёне Віцебска ў траўні-чэрвені праводзіцца эксперымент па выяўленню грамадзян, якія апынуліся за рысай беднасці. У «Віцебскім рабочым» за 18 траўня названы нават нумар тэлефона (37-60-25), па якім павінны званіць людзі, што лічаць сябе беднымі. Ці не могуць на гэтым пагрэць рукі розныя жулікі?

Ва ўпраўленні аблвыканкама па працы і сацыяльнай абароне працоўных запэўнілі, што такое немагчыма: кожны, хто звяртаецца па дадзеным тэлефоне, павінен запоўніць спецыяльную анкету, дзе выяўляецца не толькі даход маючага патрэбу ў дапамозе грамадзяніна, (гэты даход можа быць невялікім) але і яго маёмасны стан (які, мажліва, даволі значны). Некаторыя людзі цяпер атрымоўваюць маленькую зарплату ці пенсію, але яшчэ з мінулых накапленняў у іх кватэрах даволі дарагая абстаноўка.

Як мне паскардзіліся супрацоўнікі таго ж упраўлення, эксперымент працякае вельмі вяла. Адно з двух: або ў Першамайскім раёне мала беднякоў, або людзі не вераць, што цяперашнія ўлады ім дапамогуць. Апошняе больш верагодна.

**А. ЯСНЫ.**

## Спачатку здадзім, а потым...

Нягледзячы на ўрачыстае адкрыццё пад Новы год адбудаванага моста імя Блахіна ў Віцебску, толькі зараз можна будзе лічыць здачу пабудовы ў эксплуатацыю поўнай. Завяршаюцца работы па добраўпарадкаванню аб'екта—канчатковаму асфальтаванню самога моста і пад'ездаў да яго.

**Назіральнік.**



Гэта міф, што нам добра жылося.

*З архіваў*

# «Бухгалтэрыя» смерці



*Помнік ахвярам гітлераўскага фашызму ў Віцебску.*

Фотаздымак **А. ЛАКАТКО.**

**Мы працягваем друкаваць спісы вязняў Віцебскай гарадской турмы СД. Пачатак публікацыі—у «Выбары» № 17 (2—8 чэрвеня 1993 года). Спісы друкуюцца паводле дакумента «Рэгістрацыйны журнал асоб, арыштаваных СД», які вёўся на нямецкай мове і ахопліваў перыяд з чэрвеня па снежань 1942 года. Мы імкнёмся максімальна перадаць асаблівасці арыгінала.**

**Непаслядоўнасць дат, якая сустракаецца ў спісах, тлумачыцца тым, што менавіта так пазначаны даты ў дакуменце. У некаторых імёнах і прозвішчах вязняў магчымыя недакладнасці і скажэнні ў выніку двайнога перакладу—з рускай мовы на нямецкую і наадварот, а таксама з-за асаблівасцяў рукапіснага арыгінала. Рэдакцыя выказвае удзячнасць супрацоўнікам Віцебскага абласнога архіва за прадастаўлены дакумент.**

### Тетрадь № 8

**Фонд 2155, опись 2, дело 5**

| Прибытие | Убытие | Номер арестованного | Номер камеры | Фамилия, имя | Кто доставил, арестовал |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | **12.6.42 г.** | |
| 1 | — | 2450 | 15 | Боздник Иван | |
| 1 | — | 2451 | 15 | Лосик Василий | 4 полиц. участок |
| 1 | — | 2452 | 15 | Савало Антон | 4 полиц. участок |
| 1 | — | 2453 | 15 | Велес Виктор | СД |
| 1 | — | 2454 | 15 | Герабенников Алекс. | |
| 1 | — | 2455 | 15 | Шединин Василий | |
| | | | | **13.6.42 г.** | |
| 1 | — | 2456 | 15 | Матусевич Иван | СД |
| 1 | — | 2457 | 12 | Велес Юлия | СД |
| 1 | — | 2458 | 15 | Абралом Суллин | |
| 1 | — | 2459 | 15 | Стефанович Анатолий | |
| 1 | — | 2460 | 15 | Милашкевич Алексей | СД |
| 1 | — | 2461 | 15 | Наронский Антон | СД |
| 1 | — | 2462 | 15 | Мяколо Юзеф | СД |
| 1 | — | 2463 | 15 | Кароль Сомен | СД |
| 1 | — | 2464 | 15 | Трухан Стефан | СД |
| 1 | — | 2465 | 15 | Закрушний Филипп | |
| | | | | **13.6.42 г.** | |
| | 1 | 2245 | 87 | Иванин Федор | СД |
| | 1 | 2146 | 99 | Хашкевич | умер |
| | 1 | 22081 | 66 | Польнеклар Григорий | СД |
| | 1 | 2082 | 66 | Яцкевич Константин | СД |
| | 1 | 2080 | 66 | Клишко Сергей | СД |
| | 1 | 2186 | 77 | Яценко Виктор | в больницу |
| | 1 | 2315 | 45 | Давидсон Иоган | в больницу |
| | | | | **14.6.42 г.** | |
| | 1 | 2458 | 15 | Сультин Абрам | 1 полиц. участок |
| | | | | **16.6.42 г.** | |
| | 1 | 2190 | . 52 | Меркулова Нина | в больницу |
| | | | | **14.6.42 г.** | |
| 1 | — | 2466 | 12 | Чепчина Гетта | 5 полиц. участок |
| 1 | — | 2467 | 15 | Буш Давид | 5 полиц. участок |
| 1 | — | 2468 | 12 | Бруднф Польга | 5 полиц. участок |
| | | | | **15.6.42 г.** | |
| 1 | — | 2469 | 14 | Нетульшейкин | 3 полиц. участок |
| 1 | — | 2470 | 14 | Шитов | |
| 1 | — | 2471 | 14 | Кузмин | |
| 1 | — | 2472 | 14 | Новиков | |
| 1 | — | 2473 | 12 | Малиновская | |
| 1 | — | 2474 | 15 | Цирикиде Давид | 4 полиц. |
| 1 | — | 2475 | 15 | Вайнброг Израель | 5 полиц. |
| 1 | — | 2476 | 14 | Грабский Феликс | 4 полиц. |
| | | | | **16.6.42 г.** | |
| 1 | — | 2477 | 91 | Тонис Абрахам | 5 полиц. |
| 1 | — | 2478 | 91 | Тонис Мардух | 5 полиц. |

**(Працяг у наступным нумары).**

# Віцяблянам дадзена магчымасць

**За шасцідзесяцігадовую гісторыю свайго існавання Дзяржаўны рускі драматычны тэатр Беларусі гастраліраваў у дзесятках гарадоў свету. Пасля пяцігадовага перарыву—зноў сустрэча з Віцебскам.**



А. Талстой «ДЗЯЛОК». Артысты: Первожкіна (Лія), Бажанаў (Мебіус), Саладзілаў (фон Шметау).

Фота А. МАЦЮША.

З тых работ, якія прывезлі менчукі на свае гастролі, толькі з адным са спектакляў знаёмыя віцебскія гледачы—бліскучай камедыяй Ж.-Ф. Рэньяра «Адзіны нашчадак». Спектакль гэты ўжо болей 15 гадоў з нязменным поспехам і лёгкасцю пераходзіць з сезона ў сезон. Шмат у чым дзякуючы яркаму акцёрскаму ансамблю, у цэнтры якога—Жаронт у выкананні засл. артыста А. Ткачонка. Надзіва дакладны і выразны малюнак ролі заможнага і дзівацкага старога Жаронта знайшоў акцёр, знаёмы публіцы па шматлікіх кінаработах.

Адна з апошніх прэм'ер—камедыйны дэтэктыў «Хто твой каханак, Жазефа?» Да самай фінальнай сцэны так і не ясна, хто ж здзейсніў забойства ў доме Баравераў. Хто на самой справе каханак у чароўнай служанкі Жазефы—таксама загадка, такая ж займальная, як і расследаванне злачынства.

Падзеяй у Рускім тэатры стала пастаноўка польскім рэжысёрам К. Ш. Ясінськім п'есы «Вар'ят і манашка». Такім чынам, упершыню ў Беларусі ўбачыў святло рампы твор знакамітага польскага драматурга, філосафа, мастака, прадвесніка тэатра абсурду Ст. Віткевіча.

Самым маленькім гледачам, і не толькі ім, тэатр прывёз цудоўнае прадстаўленне «Жылі-былі дурні», якое сачыніў і паставіў самы сапраўдны клоун А. Осіпаў.

Гастролі менчукоў можна лічыць і своеасаблівай творчай справаздачай—тэатр сустрэў свой шасцідзесяцігадовы юбілей, уступіўшы ў пару творчай сталасці. Віцяблянам даецца магчымасць убачыць і ацаніць ягоныя дасягненні і пошукі.

**Алена ЛІОПА.**
**Менск.**

## Эксперымент non stop?

Больш грунтоўны расповяд яшчэ наперадзе. Аднак ужо цяпер можна сказаць: рэч надзвычай цікавая і цікаўная для знатакоў мастацтва.

Што за рэч? Новы спектакль... ці, лепей сказаць, арыгінальная аднаактавая імпрэза. «Цырк Шардам» паводле апавяданняў Даніїла Хармса ў коласаўскім тэатры.

Падобнага, здаецца, у сценах нашага тэатра шчэ не было. Малады рэжысёр-пачатковец Анатоль Грышкевіч задумаў і ажыццявіў пастаноўку сцэнічнага эксперыменту, збудаванага на адчуваннях, асацыяцыях, якія вынікаюць з творчасці рускага пісьменніка.

Аднак эсперымент не закончаны. На думку рэжысёра, наступны сезон мажліва раставіць новыя акцэнты ў тэатральным прачытанні Хармса.

Дачакаемся тэатральнай восені. Паглядзім.

**Наз-к.**

Рэдакцыя «Выбара» ўдзячна сп. Жанне Шэвяка з Віцебска за ахвяраванне на патрэбы газеты.

* * *

**Вы жадаеце штосьці прадаць, абмяняць, купіць, кагосьці павіншаваць—адным словам—ЗРАБІЦЬ БЯСПЛАТНУЮ АБ'ЯВУ!**

**Звяртайцеся да нас лістоўна ці па тэлефонах 37-35-06, 37-28-44.**

## У кінатэатрах горада з 9 па 13 чэрвеня

**«БЕЛАРУСЬ»**

**«Бязлітасныя людзі»** (ЗША). 9.40, 11.30, 13.20, 15.10, 17.00, 18.50, 20.40.
**«Першая кроў (Рэмба)»** (ЗША, малая зала). 12.00, 14.00, 16.00, 18.00, 20.00.
Аўтаадказчык 14028.

**«СПАРТАК»**

**«Эмануэль»** (Францыя). 10.00, 12.00, 14.00, 16.00, 17.50, 19.40, 21.30.
Аўтаадказчык 365121.

**«КАСТРЫЧНІК»**

**«Анкор! Яшчэ анкор!»** (Расія). 9.30, 11.20, 13.10, 15.00, 16.50, 18.40, 20.30.
Аўтаадказчык 365544.

**«БРЫГАНЦІНА»**

**«Вялікае Саргасава мора»** (ЗША). 14.50, 16.30, 18.10 (ільготны), 19.50, 21.30.
**«Долмен»** (ЗША). 11.50, 16.00, 17.20, 18.45, 20.10, 21.40.
**«Кот ідзе па следу»**. 9.00, 10.30, 13.15, 14.40.
**«Калаж» (мультфільмы)**. 9.20, 10.45, 12.10, 13.30.
Аўтаадказчык 18179.

**«МІР»**

**«У кальцы»** (ЗША). 9.50, 11.35, 13.20, 15.00, 16.55, 18.40, 20.20.
**«Аголеная ў капялюшы»**. 11.50, 12.40, 14.00, 15.20, 16.40.
**Відэафільмы**. 10.10, 12.10, 14.40, 17.00, 19.30.
Аўтаадказчык 362223.

**«УСХОД»**

**«Мая марачка»** (Расія). 19.30.
**«Раман з каменем»** (ЗША). 14.00, 15.50, 17.40.
Аўтаадказчык 332936.

**Відэатэатр «ВІЦЬБА»**

**«Рыкашэт»** (ЗША, вялікая зала). 9—11 чэрвеня. 13.30, 15.40, 17.50, 20.00; 12—13 чэрвеня. 10.00, 12.10, 14.20, 16.30, 18.40, 20.50.
**«Тры ніндзя»** (ЗША, малая зала). 9—11 чэрвеня. 13.40, 15.50, 18.00, 20.10, 12—13 чэрвеня. 10.10, 12.20, 14.30, 16.40, 18.50, 21.00.
Аўтаадказчык 14945.

# *Гармонік грае на Сінаях*

Прырода вельмі шчодра надзяліла Сянно маляўнічымі ваколіцамі. Ёсць тут цудоўная мясцінка, дзе тутэйшыя жыхары любяць праводзіць розныя святы. У гэтым, як і ў гасціннасці сенненцаў, змаглі нядаўна пераканацца аматары мастацкай самадзейнасці з Расонскага, Лепельскага, Шумілінскага, Лёзненскага, Віцебскага і іншых раёнаў, якія ўдзельнічалі ў абласным конкурсе «Іграй, гармонік!». Ён, дарэчы, праводзіўся тут другі раз запар.

Ды толькі я не аб конкурсе гэтым хачу расказаць. Рабіла аб ім рэпартаж абласное тэлебачанне, быў фотакарэспандэнт газеты «Народнае слова».

Я аб тым, што мясцінка гэтая афіцыйна называецца «Лесапарк імя 40-годдзя Перамогі Савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне». А мясцовы люд называе яе, як называў, мусіць, з самага заснавання Сянно: Сінайскія горы, або прасцей—Сінаі.

Вельмі ж добра тут, на Сінаях. Кашлатыя яліны і векавыя сосны акружаюць прыродны амфітэатр, катлавіну, дзе пабудавана сцэна, пастаўлены лаўкі для гледачоў. Увогуле, сцэну бачна з любой кропкі. А за дрэвамі, унізе пад гарой, блішчыць возера Сукрэменскае. Да яго, праўда, прыклалі ў свой час руку дзеячы раённага маштабу, асушыць хацелі. Забалаціліся цяпер яго берагі, паменела люстэрка вады. Але возера захавалася, не паддалося.

Памятаю, як у 1985 годзе рыхтаваліся святкаваць 40-годдзе вялікай Перамогі. Вось тады некаму ў кабінетнай цішыні прыйшла думка увекавечыць гэты юбілей, назваўшы Сінаі лесапаркам.

Мне, тады работніку мясцовай раённай газеты, з вышыні свайго партыйнага крэсла адзін ідэолаг паблажліва даводзіў: «Сінайскія горы—гэта ж нешта біблейскае, Ізраіль напамінае, яўрэяў...».

Пракаменціраваць тады гэтую ідэалагічную «знаходку» ніякай магчымасці не было. Дзе б гэта надрукавалі? Так і чуюцца дэмагагічныя довады: «Гэта ж глумленне над памяццю герояў...» і адпаведныя «вывады».

У Сенненскім раёне памяць аб вайне, аб загінуўшых дзеля Перамогі ўвекавечана ў шматлікіх помніках, у назвах калгасаў і саўгасаў, вуліц, у школьных музеях. Памяць аб іх заўсёды жывая ў сэрцах удзячных нашчадкаў.

Але ці падумаў тады той дзеяч, што ён назаве ў гонар 45-годдзя, 50-годдзя і гэтак далей? Мусіць, знайшоў бы што. Азёр, лясоў, вёсак жа яшчэ шмат.

Толькі па-даўнейшаму клічуць сенненцы гэтую мясціну Сінаямі. Нават афішы, якія сёлета запрашалі на конкурс «Іграй, гармонік!» гледачоў, мелі пад радком «Лесапарк...» дапаўненне «Сінайскія горы».

Гучаць па-ранейшаму тут песні ў святы, забываюцца нягоды, адпачываюць душой людзі ад жыццёвых праблем.

І. ЛАЗУКА.

## А кіно—даражэй

Доўга трымаліся цэны на спектаклі Беларускага акадэмічнага тэатра імя Я. Коласа. Але ў траўні ўсё ж адміністрацыя вымушана была падняць максімальны кошт квіткоў да 50 рублёў. Аднак і гэтая цана—канкурэнтная. Білеты ў кіно нашмат даражэйшыя.

**М. КАЛІНОЎСКІ.**

Выбар

Заснавальнік

*Віцебскі гарадскі клуб выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары»*

**Галоўны рэдактар Барыс ХАМАЙДА**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Валянцін АРЛОЎ**
**Хрыстафор ЖАЛЯПАЎ**
**Васіль ІГНАЦЕНКА**
**Юры ЛАЎРЭНАЎ**
**Ларыса МІХНЕВІЧ**
**Міхась ПАЎЛАЎ**
**Уладзімір ПЛЕШЧАНКА**
**Леанід ТАМАРОВІЧ**
**Ігар ЦІШКІН**

Мастак **Р. Клікушын.**
Фотаздымкі
**М. Міхайлава.**
**Адрас рэдакцыі:** 210601, м. Віцебск, вул. Гогаля, 17.
**Тэл. 37-35-06, 37-28-44.**

**Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор ды дакладнасць пададзеных фактаў, цытатаў, гаспадарча-статыстычных даных, уласных імёнаў, геаграфічных назваў і іншых звестак. А таксама за тое, што ў матэрыялах пададзены звесткі, якія з'яўляюцца дзяржаўнай ці спецыяльна ахоўваемай законам таямніцай.**

**Рэдакцыя можа апублікаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункт гледжання аўтара.**

**Пры перадруку спасылка на «Выбар» абавязковая.**

Рукапісы не вяртаюцца й не рэцэнзуюцца.

**Бягучы рахунак рэдакцыі № 200700962 у Віцебскім камерцыйным банку (Віцкамбанк). Код (МФО) банка 150801701.**

**Газета набраная і надрукаваная афсетным спосабам у Віцебскай узбуйненай друкарні імя Камінтэрна: г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 6.**

**Выходзіць штотыднёва па серадах**

Нумар падпісаны да друку 8.06.1993 г. у 17.15.
Наклад 1500 экз.

**Цана 3 руб.**